Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 6 (19). Вільня, Субота, 23-га студзеня 1926 г. Год II.

## Селянін і работнік.

Некалькі вякоў назад адзін хітры італьянец на імя Маккіавэлі даў валадаром, улада якіх пачынала трэшчэць, добрую раду: як аднаму чалавеку утрымаць уладу над міліёнамі. Ен казаў:

— „Divide et impera“, што знача: дзялі і пануй!

І запраўды: шляхам дзяленьня сваіх ворагаў, шляхам цкаваньня іх адных на адных, адзінкі і малыя групы людзей і па сёньняшні дзень умеюць панаваць над вялізарнымі народнымі масамі, калі апошнія йдуць ня разам, а падзелены на варожыя сабе ўзаемна групы, ды змагаюцца паміж сабою.

Тое, што сталася ў старой царскай Расеі ў выніку сусьветнае вайны, найлепш паказуе, што ў той мамэнт, калі міліёны працоўных—работнікаў і сялян — апынуліся разам, апранутыя ў аднолькавыя шэрыя салдацкія шынэлі,—у той мамэнт улада царызму не магла супрацівіцца народнай волі і ў вадзін мамэнт развалілася, як-быццам яе ніколі й ня было....

Цяпер, калі на ўсенькім сьвеце барацьба працы з капіталам разгарэлася так, як дагэтуль ня бывала,—мы ўсюды бачым імкненьне да аб'яднаньня дзьвюх галоўных сілаў народаў: работнікаў і сялян. Там, дзе сьвядомасьць працоўных ужо настолькі разьвіта, што яны разумеюць усё значэньне такога аб'яднаньня,—там вынік змаганьня за ўладу не выклікае ніякіх сумляваньняў. Наадварот, дзе сялянства і работнікі йдуць рознымі дарогамі, дзе іх шляхі разыходзяцца,—там на перамогу працоўных надзеі вельмі мала....

У Польшчы адна з урадавых цяпер партыяў—ППС, якая некалі мела вялікі ўплыў у масах, ды цяпер яго зусім згубіла, — у часы сваей опозыцыйнасьці падняла кліч: „Niech żyje rząd robotniczo-włościański!“ (Няхай жыве работніцка-сялянскі ўрад!). Цяпер ад гэтага клічу астаўся толькі адзін сьлед—на паперы: ў загалоўку пэпэсаўскае газэты „Robotnik“. Але адрачэньне ад гэтага лёзунгу цяперашняе ППС зусім не зьмяншае правільнасьці яго.

Кліч гэты падтрымлівалі дагэтуль і ўсе беларускія опозыцыйныя партыі і групы: выпадкі на Усходзе з лішняй яркасьцяй паказалі, якую магутную сілу прадстаўляе братняе аб'яднаньне работнікаў і сялян. Але ў апошнія часы на страніцах дзьвюх беларускіх часопісаў—„Bieł. Krynicy“ і „Сялянскае Нівы“—мы бачым цэлы рад выступленьняў *проці такое еднасьці.* Паміж іншым, гэтыя часопісі згодным хорам расказваюць казкі, быццам мястовы работнік ня толькі не зацікаўлены тым, каб сяляне дасталі зямлю, а, наадварот, *проці* гэтага,—хаця-ж усюды і заўсёды іменна работнікі першыя працавалі і працуюць над усьведамленьнем і арганізацыяй сялянскіх сіл—дзеля здаваленьня адвечнага імкненьня сялянства да зямлі. Скольні такіх работнікаў — змагароў за зямлю для сялянства—згнаілі расейскія царскія вастрогі,—аб гэтым ня нам гаварыць рэдактаром „сялянскіх“ газэт, як яны сябе называюць. Але нельга прайсьці моўчкі міма другога „аргумэнту“ гэных газэт: міма таго, што яны, відаць, не разьбіраючыся ў сутнасьці ідэі камунізму, бачаць гэны самы камунізм акурат у праводжанай не аднымі намі ідэі аб'яднаньня процоўных места і вёскі, ды гэтым „страшаком“ стараюцца запалохаць беларускага селяніна і настроіць яго проці ягонага „ворага“—работніка!...

Дзякуй Богу, аднак-жа, беларускага селяніна пустымі славамі ўжо не запужаеш, і імкненьне „далучыць“ нас да камуністаў небясьпечна толькі затым, што гэтую партыю польская ўлада вельмі востра перасьледуе: 4—6 гадоў катаргі—вось звычайны прысуд тым, каму давядуць прыналежнасьць да камунізму.

Ну, ды Бог з імі! Бо-ж і ня гэта самае галоўнае ў палітыцы нашых так-званых „сялянскіх“ кірункаў: найвялікшы іх грэх—у тым, што яны памагаюць „нашым і вашым“... ворагам умацоўваць іх уладу, абапертую іменна на гэным старым прынцыпе „дзялі і пануй“. І пакуль працоўныя мест пад Польшчай не згаворацца і не аб'яднаюцца з сялянствам, датуль і аб якой-колечы зьмене ў нашым жыцьці ня можа быць гутаркі.

Сойм, дзе іменна галасамі польскага заможнага сялянства прайшоў закон аб „асадніцтве“ ў Зах. Беларусі і аб аддачы нашых адвечных абшараў — чужым, толькі пацьвярджае гэта.

Мы верым, што, аднак, ніякім сілам ня ўдасца разьбіць такога натуральнага і патрэбнага для абедзьвюх груп працоўных саюзу селяніна і работніка. Лепшыя беларускія дзеячы даўно ўжо клікалі да гэтага саюзу і прарочылі яму перамогу. І не дарма-ж у першыш нумары першае беларускае газэты „Нашае Долі“—дваццаць гадоў назад—наша вялікая пясьнярка „Цётка“ ў прарочым натхненьні рысавала абраз, як тры сыны старога селяніна Мацея—дворны парабак, пецярбурскі работнік і салдат — прысягнулі даць народу зямлю: „Мы дамо, мы сіла—мы права!“.

Прароцтва гэнае—зьдзейсьніцца!

## Як польскі пісьменьнік шукаў „польскасьці“ на „Крэсах“ і што там знайшоў.

Выдатны польскі пісьменьнік Серошэвскі, які дзіўна злучае ў сваей асобе ўспадкаваны ад расейскай інтэлігэнцыі радыкалізм з узятым ад польскіх зубраў нацыяналізмам, паехаў на „Крэсы“.

Паехаў з даручэньня рэдакцыі такой-жа самай, як і ён,—радыкальна-нацыяналістычнай польскай газэты „Kurjer Poranny“.

Паехаў, як і трэба было спадзявацца, — шукаць там „польскасьці“... Шукаць сьлядоў тэй даўнай польскай культуры, якую быццам так заўзята зьніштажала там расейскае панаваньне, а адначасна і рэзультатаў новай „польскай культуры“, якую вось ужо ў працягу 7 гадоў заводзяць на „Крэсах“ сучасныя паны палажэньня ў Польшчы...

Паслухаем, што-ж знайшоў прадстаўнік „польскага сумленьня“ на ўкраінскіх „Крэсах“, куды ён паехаў у першую чаргу...

### „Палянізаваць — толькі з сярэдняй школы“

У часе сваей падарожы па Валыншчыне пан Серошэвскі пераглядзеў шмат пачатковых школаў... „Але, скольні я ні бачыў гэтых школаў, я ня меў шчасьця знайсьці ніводнай украінскай... Усе былі ўтраквістычныя“ (ці „двух-язычныя“ — польска-ўкраінскія).

Другі нямеш цікавы вывад дасьледу аўтара: на чыста ўкраінскай Валыншчыне няма ўкраінскіх народных школаў!.. Няма прынамся казённых.

Асьвечаны лявіцовы падарожнік вельмі абураны гэтым зьявішчам, з чаго трэба судзіць, што пачатковую школу для ўкраінцаў ён лібэральна лічыць патрэбным даць украінскую... А „радыкальную“ палянізацыю ўкраінскіх дзяцей пачынаць толькі—з сярэдняй!.. Вось, як наказвае яму яго „польскі радыкалізм“.

### У „дву-язычнай“ пачатковай школе.

Але-ж чым-жа не падабаюцца „польскаму радыкалізму“—у асобе п. Серошэвскага — „двуязычныя“, грабска тугуттаўскія школы?..

А вось паслухаем, што ён піша далей пра гэтыя школы.

Вось тыповы абраз аднэй такой школы на акраіне вялікага места. Школа гэта нядаўна перароблена ў „двуязычную“ — з прыкладовай чыста ўкраінскай школы—„на жаданьне бацькоў“.. Аўтар мае настолькі праўдзівасьці і пашаны да розуму гэтых бацькоў, што ня верыць у гэтыя сфабрыкаваныя ўладай „жаданьні“ бацкоў.

„На школьным дзядзінцы гуляюць хлопцы і дзяўчаткі. Гавораць **выключна паукраінску**. Калі мы падыходзім, яны адразу моўкнуць, сілючыся адразу гаварыць папольску“..

Тут шляхотнаму аўтару прыпамінаюцца часы і перажываньні яго ў расейскай і ў нямецкай школе ў Пазнані, і я о „сэрца сьціскаецца“... Бо ж тады забаранялі гаварыць у роднай мове польскім дзецям!..

Дзеці ўсе—мяйсцовыя, украінцы. Вучыцялі ўсе—палякі, дый яшчэ „выпісаныя з Малапольскі“...

Дазволілі важнаму падарожніку паслухаць і лекцыяў у школе.

„У якой мове выкладаецца“, пытае ён аднаго з вучыцялёў.

— „Зразумела-ж—папольску“,—адказывае той.

— „І дзеці добра разумеюць“?

— „Спачатку йшло цяжка, але цяпер разумеем адзін аднаго—знамяніта“...

— „І арытмэтыка таксама выкладаецца — папольску“?

— „А як-жа-ж“!..

П. Серошэвскі просіць, каб вучыцель паклікаў найбольш здольнага вучня, дый загадаў яму лічыць папольску, пачынаючы ад 1.

Вучыцель выклікае 12-летняга вучня, і той ліча—„папольску“:

— „Едэн (паўтараючы за вучыцелем, а пасьля ўжо сам), два, трі, чотыри, пять, шэсть, сім“, — сыпле ён адным духам шчыра паукраінску...

Вучыцель—у канфузе, чырванее і крычыць вучню:

— „Але-ж ты—попольску“!..

Хлопец хвілінку маўчыць, надумываецца, а пасьля—лупіць з поўнай мінай:

— „Первой, второй, трэцій, четвертой, седмой... (чыста парасейску)!..

— „Досьць, досьць (крычыць вучыцель). Садзіся. Другі—Іванюк.

Устае другі („сярэдніх здольнасьцяў“, як прасіў аўтар). Доўга, доўга маўчыць, на загад лічыць папольску. Урэшце пачынае плакаць:

— „Я ж нэ вмію!“,—кажа скрозь сьлёзы паукраінску...

— „Можа спрабуем што іншае“, — кажу я, каб спыніць прыкрую сцэну.

— „Малы, зьвяртаюся я да хлапца з вясёлым румяным тварам. Пакажы мне свой сшыток — што ты там пішаш“...

— „Пішу!“, — адказывае радасна паукраінску вучань, падсоўваючы мне свой заплямлены сшыток.

— „А скуль гэтыя плямы?“, — пытаецца папольску вучыцель.

Вучань чырванее і маўчыць...

— „Адказывай—ад чаго.—Можа ад воды? Адказывай папольску, не лякайся“...

— „Папольску... то... е... з жыру“, — адказывае вучань...

### „Ня хочам уціскаць“

— „Дзеці, а як гэта завецца?“, пытаецца вучыцель, паказываючы на дзьверы.

— „Тое двэры“,—адказывае кляса хорам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— „Так неяк пакрыху зробіцца,— пацяшае мяне вучыцель...

— „Ці вучні маюць лекцыі ўкраінскай мовы“?..

— „Маюць—дзьве гадзіны ў тыдзень“...

— „А рэшта прадметаў—прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія—папольску“?..

— „Усё папольску“!..

— „Але ж—дзеля таго, што дзеці не разумеюць вас, дык усе лекцыі па ўсім прадметам ператвараюцца ў лекцыі—польскай мовы“?!

— „Іменна: польскай мовы!“, — усьцешваецца вучыцель (не зразумеўшы забойчага зьместу увагі аўтара)!..

— „І малітву з вучнямі адмаўляеце таксама папольску?“,—пытаюся.

— „Але-ж“!..

— „А ведаеце вы, што з гэтых самых прычынаў мы мелі „Вжэсьню" (галосныя на ўвесь сьвет забурэньні польскіх вучняў і бацькаў у Пазнані — у прускай нацыяналістычнай школе).

Вучыцель зьдзіўлена маўчыць і глядзіць на мяне бязрадна.

— „Мы ня хочам іх уціскаць... ня хочам",—шэпча ён, праважаючы мяне да дзьвераў...

### „Ні бэ, ні мэ папольску"...

У іншай школе, таксама „ўтраквістычнай" (польска-ўкраінскай)—у глухім куце краю, дзе аб палякох не магло навет быць мовы, вучыцель адкрыта прызнаўся, што, ня гледзячы на забарону з цэнтру, ён змушаны навет лекцыі польскай мовы выкладаць—паўкраінску. Бо — інакш дзеці не разумеюць нічога.

А з цэнтру Ст. Грабскі загадывае рабіць — якраз наадварот...

Але вучыцель-паляк запэўняў высокага госьця, што тутэйшыя дзеці і бацькі—вельмі хочуць вучыцца папольску, бо—разумеюць патрэбу гэтага... „Але вось толькі дзеці — ні бэ, ні мэ папольску"...

### „Не хапае дзяцей"—на Валыншчыне...

Бачыў аўтар у сваіх падарожах і такія школы, дзе навукі не адбываліся зусім, бо

**„не хапала дзяцей,** хаця сяло было аж надта вялікае—**больш як сто хатаў"!..**

„Ня ходзяць. Прыйшло было штось са трох", скардзілася вучыцелька. **А я з імі зусім не магу згаварыцца.** Бо-ж я—з Кельцаў *) дый ані слова ня ўмею паукраінску. „Прыслалі мне памоцніка, праўда—з Усходняй Галіччыны, але і ён таксама ня ўмее паукраінску. **Дык пачаў вучыцца сам (паукраінску!) з падручнікаў.**

### Ад зямельнай галадухі дый з адчаю.

Бачыў аўтар і такія вёскі, дзе бацькі казалі: „Хай вучаць хаця пачартоўску, але каб толькі зямлю далі"!..

Да гэткіх вёсак належыць, напрыклад, нейкая Скробатоўка, у якой паны Домбскія і Дашыньскія, сучасныя „абаронцы сялянства", адрэзалі „рыжскім кардонам" усю іх зямлю, пакінуўшы на гэтым баку толькі двары іх вёскі... Як ведама, польскі ўрад абяцаў ды абязаўся зараз-жа нарэзаць такім вёскам новыя надзелы... Але, каб украінскія сялянскія дурні дарэмна ня цешыліся абяцанкай, дык яны (абяцанкі) і дагэтуль вісяць у паветры...—Ня было часу, відаць, і панам „ахоўцам сялянства" ў Польшчы напомніць Польскай Дзяржаве аб яе прырачэньні...

### Ад прыхільнасьці да—ненавісьці.

Вось, як моцна піша аб гэтым сам аўтар-паляк:

„Першапачаткавая **прыхільнасьць да Польшы ператварылася ў ненавісьць".** Бо-ж—„не памагаюць нічога — ані прашэньні, ані захады, ані прадстаўленьні да ўлады—цэнтральных ці мястовых. А побач ляжаць дзерваном вялізарныя прасторы абшарніцкіх маёнткаў, зруйнаваных, спустошаных. Уласьнікі ў іх ня жывуць, дый з радаснай душой пазбыліся-б іх чым-хутчэй (асабліва яшчэ—за добрую цану, якую могуць даць толькі — пястоўскія асаднікі з Заходняй Галіччыны — за „ўрадавыя крэдыты").

Аўтар і радзіць парцэляваць гэтыя маёнткі—ведама-ж, на падставе „Закону аб парцэляцыі і асадніцтве",—каб „пературарыць (назад!) сялянскую крыўду ў грамадзянскую прыхільнасьць" да Польшчы...

### Фальшаваньне „школьнага плебісцыту".

У канцы сваіх цікавых фэльетонаў польскі пісьменьнік апісывае ўсе тыя агідныя спосабы гвалту, подкупу, ашуканства, якімі польская школьная ўлада, у ганебным саюзе з паліцэйскай, фальшавала вялікі „школьны плебісцыт", адбыты на „Крэсах" на падставе Закону 31 ліпня... Але гэтага няма чаго паўтараць беларускаму чытачу-селяніну: ён ведае ўсё гэта і на сваей беларускай скуры!..

### „Готтэнтоцкая мараль".

Польская „радыкальная" прэса, як і „сацыялістычная", страшэнна (—а можа і шчыра?) абураецца на „готтэнтоцкую мараль" галоўнага кіраўніка польскай школьнай улады на „Крэсах"—мін. Ст. Грабскага, правадыра польскага нацыяналізму... Але-ж побач з прэсай гэтай польскай „лявіцы" істнуюць яе-ж — адказныя прадстаўнікі ў польскім Парляманьце і ў урадзе, маючыя ўжо поўную ўладу... І вось яны — сядзяць за адным міністэрскім сталом з тым самым Ст. Грабскім!..

### Бярэмо прыклад з украінскіх хлапцоў.

Найцікаўнейшым з усяго, што бачыў і сьцьвярдзіў на ўкраінскіх „Крэсах" польскі пісьменьнік, гэта—поўнае бяссільле польскай школы ў яе агіднай і шкоднай задачы—палянізацыі... — Не ўкраінскі сялянскі хлопец-вучань навучаецца польскай мовы, але—наадварот: нагнаныя ў край палянізатары „вышэйшай культуры" вучацца ўкраінскай мовы!

Так заўсёды капітулюе „вышэйшая культура" перад сілай жывога народу, як толькі яна ставіць сабе мэты, варожыя яго духоўнаму жыцьцю...

Агідная праца дэнацыяналізатараў толькі паглыбіць нацыянальнае пачуцьцё і грамадзкую сьведамасьць у народзе!..

Сам польскі аўтар запэўняе нас, што бадлівая карова не забадае, а толькі сама зламае, бадаючыся, свае рогі!..—Дык бярэце, беларусы, бацькі і вучні, прыклад з мацнейшых за нас, бо старэйшых братоў-украінцаў!!.

---

Падзякуем і пану Серошэвскаму за пацеху: пасьмяяліся шчыра!.. Ці зразумеюць толькі навуку яго —польскія чытачы?!.—Сумліўна!..

**Бацька Кій.**

*) У Кангрэсоўцы (Варшаўшчыне!).

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Адозва „Сялянскай Партыі" Домбскага і Валерона.

Паслы, выступіўшыя з разваліўшагася аканчальна „Вызваленьня", выдалі адозву, у якой, абяцуючы апрацаваць... праграму сваей партыі, пішуць, што наагул яна мае — „вясьці клясавую сялянскую палітыку, якой дасьць сілу выкананьня—аб'яднаньне ўсіх польскіх сялян у адну магутную партыю"...

Далей адозва заклікае ўсіх сялян-паслоў з „Вызваленьня", Пяста, „групы кс. Оконя" і „Сялянскага Саюзу"—злучыцца ў адну коаліцыю.

У канцы адозва абяцуе — „імкнуцца да супрацоўніцтва з сялянскімі арганізацыямі—украінскімі і беларускімі—у мэтах стварэньня вялікага сялянскага блёку". „Тады ў саюзе з радыкальным работніцкім рухам сялянскі блёк станецца падставай новага ўраду ў Польшчы"...

Што гэта за „радыкальныя" работнікі ў Польшчы: ці не паны пэпэсы?,—аб гэтым паны Домбскі і Валерон маўчаць. Але запрашэньне да „блёку" пястоўцаў красамоўна адказывае на гэта.

Цікава і тое, якія-ж гэта з „беларускіх і ўкраінскіх сялянскіх арганізацыяў" пойдуць у „блёк" з пястоўцамі-асаднікамі? Можа толькі „арганізацыі" паноў Оскілкі і Павлюкевіча.

### Новы бюджэт у Радзе Міністраў.

У лоне коаліцыйнага ўраду мае пачацца „рашучая барацьба"—пэпэсаў з рэштай габінэту. У мінулы чацьвер міністар фінансаў меўся падаць на зацьверджаньне Рады Міністраў свой папраўлены дый абрэзаны коштам працоўных бюджэт на 1926 г.

„Robotnik", пачуўшы ўжо раней аб тым, які будзе гэты бюджэт, заявіў голасна і грозна, што „такі бюджэт—канец коаліцыі". Але і мін. Зьдзеховскі і ўся пакорная яму эндэцкая прэса ня вельмі спужалася гэтай пагрозы. Бюджэт мін. Зьдзеховскага — якраз такі, што пэпэсы павінны былі б выйсьці з коаліцыі, бо тое, што раней прапанавалася, як часовая мера на 3 першыя месяцы, цяпер праведзена ў бюджэце на цэлы год.

Сама эндэцкая прэса сьцьвярджае, што галоўным спосабам, якім дасягнута раўнавага бюджэту, зьяўляецца—бязлітаснае абразаньне пэнсіяў дзяржаўным працаўнікам і—„эканомія" на асьвеце. Аднэй гэтай апошняй „эканоміі" мін. Ст. Грабскі зрабіў на 40 мільён.

Цікава, таксама пішуць эндэцкія газэты аб „эканоміі" ў ваенным міністэрстве. Пішуць, быццам сам прэзыдэнт Рэспублікі, як вярхоўны галава арміі заінтэрэсаваўся гэтай справай і знайшоў, што—калі ў арміі дый у ваеннай бюракратыі зрабіць больш парадку, а перад усім спыніць хабары дый крадзежы, тады і бяз усякай „рэдукцыі" зробіцца такая вялікая эканомія, што ня трэба будзе навет скарачаць час службы ў войску.

Дык над новым бюджэтам узгарыцца цікавая барацьба. Паглядзім, чым скончыцца „ваенны запал" паноў пэпэсаў, якіх „Незалежны Селянін" дасьціпна называе так: „П. (акорныя), П. (аслушныя), С. (лугі)"—буржуазіі.

Як мала пашаны маюць гэтыя „слугі" ў сваіх паноў, відаць хаця-б з таго, што эндэцкая прэса, баючыся за свой бюджэт, які значна пацяжэў для працоўных, але за тое—палягчэў для ўсялякага роду ўласьнікаў,—піша, што лявіца—пры пачаўшайся дыскусіі — пусьціць у ход усю дэмагогію, аглядаючыся перад усім на сваіх выбаршчыкаў, бо-ж новыя выбары набліжаюцца, а можа адбудуцца і хутчэй, як прадбачана ў Канстытуцыі.

### Выбух гранатаў у варшаўскіх фортах.

18-га сьнежня ў „Форце Легіёнаў" у Варшаве ў фабрыцы гранатаў здарыўся выбух запальнікаў — з прычыны неасьцярожнасьці аднэй з работніц. У выніку выбуху 5 работніц цяжка ранены.

Таго-ж 18-га сьнежня на другім форце—„Бэма"—на фабрыцы амуніцыі здарыўся таксама выбух артылерыйскага снараду, які каштаваў афіцэру 2 пальцаў.

### „Крэўняцкія" афэры.

Толькі-што неяк затушавалася ганебная справа пляменьніка самага галавы польскай эндэцыі і былага міністра п. Гломбіньскага, які, карыстаючыся высокай пратэкцыяй „вуяшка", нагрэў дзяржаўны скарб — праз услужнага мін. Сікорскага—на вельмі значныя сумы,— і вось цяпер выкрылася, што родны брацішак самага віцэ-старшыні Польскага Банку, п. Млынарскага, карыстаючыся таксама пратэкцыяй брата, набраў у тым Банку на розныя мэты ўсялякіх „залічак" на вельмі значную суму, якой яшчэ дакладна ня можна было ўстанавіць. На адзін з нявыкананых контрактаў з тым-жа ваенным міністэрствам узяў ён 60 тысяч зл.

Набраў, набраў, але пэўна-ж няма дурняў аддаваць...

І вось, гэтага „брацішку" прыйшлося навет арыштаваць. А „Robotnik" піша, што з гешэфтамі гэтага „брацішка" зьвязаны шмат асоб—як у Варшаве, таксама і ў Галіцыі.

### Яшчэ кража ў дзяржаўным банку.

У Цешынскім Аддзеле Дзяржаўнага Банку Краёвай Гаспадаркі выкрыта вялізарная кража аж на 200 тысячаў злотых. Адзін з чыноўнікаў — пэўна-ж, не з маленькіх!—у працягу значнага часу падрабляў чэкі, і гэткім парадкам набраў шмат грошаў. Цікава, што на гэтыя накрадзеныя грошы ўрадовец залажыў фабрыку шакаладных цукерак, якую гэткім чынам і — „фінансаваў" далей з касы Банку. Але на гэта не зьвярнулі ўвагі паны дырэктары. Відаць, смачныя-ж цукеркі вырабляў іх служачы.

## Заграніцай.

### „Лёкарно" трашчыць.

Нямецкая прэса страшэнна абурана на тое, што так-званая Рада Паслоў (адзін з органаў „вэрсальскай Антанты") пастанавіла пакінуць у Нямеччыне на толькі што „загарантаванай" Лёкарнскімі Трактатамі „лініі Рэйну" — аж 75 тысячаў акупацыйнага войска: 60 тысяч францускіх, 8.000 англійскіх і 7.000 італьянскіх.. Нямецкі ўрад таксама рашуча запратэставаў праз сваіх паслоў у Парыжу, Лёндане і Рыме, пазываючыся на — „дух Лёкарно"...

Але „дух"—ведама-ж, як кожны дух,—хутка разыходзіцца па хаце, дый праз нейкі час яго ўжо і ня чуваць... Так і тут: Брыян заявіў нямецкаму паслу, што ў сучасны мамэнт ня можа быць мовы аб зьмяншэньні акупацыйных войск. А Чэмбэрлен—дык толькі ветліва выслухаў пратэст Нямеччыны...

Нямецкія нацыяналісты заяўляюць, што будуць працівіцца ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, пакуль ня будзе скінута ганебная і недарэчная ўжо пасьля Лёкарно—акупацыя краю...

### Новы нямецкі ўрад.

Толькі-што закончыўся ўрадавы крызіс у Нямеччыне, які трываў больш як месяц. Новы габінэт зложаны толькі з цэнтравых партыяў (нямецкіх і баварскіх людоўцаў), дэмакратаў і каталіцкага цэнтру. Нямецкія людоўцы маюць значную перавагу ў габінэце, бо маюць прэм'ера (Лютэра), мін. заграннічных спраў (Штрэзэмана) і яшчэ 2 важныя партфэлі. У склад ураду ўвайшоў сам галава цэнтру Маркс. Але галава дэмакратаў Кох чамусьці ў апошні мамэнт зьняў сваю кандыдатуру. Міністрам Рэйхсвэры (ваенным) астаўся стары Гесслер. Гэткім чынам „новы" ўрад узапраўднасьці—амаль ня той самы ўрад Лютэра і Штрэзэмана, які быў і раней.

Дзьве найвялікшыя групы Сойму—нацыяналістычная правіца і сацыял-дэмакратычная лявіца, ня кажучы ўжо аб больш крайніх групах, асталіся па-за ўрадавай коаліцыяй, маючы аднак-жа аграмадную большасьць у Сойме.

Гэткім чынам у Нямеччыне будзе ізноў правіць урад, абаперты на парляманцкай меншасьці.

### Прызнаньне ССРР Чэха-славацкім урадам.

У апошнім экспозэ мін. Бэнэша ў Радзе Міністраў ён тлумачыў зусім „мірна" павялічэньне чэха-славацкіх войскаў на вэнгерскай граніцы і заявіў, што галоўная справа чэха-славацкай дыплёматыі цяпер—юрыдычнае прызнаньне ССРР.

### Францускія сацыялісты і ўрад.

Кангрэс францускіх сацыялістаў рашуча выказаўся проці ўчасьця ў урадавай коаліцыі разам з буржуазнымі партыямі — прынамся як меншасьці ў габінэце, якая ня мае магчымасьці праводзіць сваю праграму... (Ведама, што польскія „сацыялісты" якраз палічылі магчымым гэткае становішча „затычкі" ў чыста і груба буржуазным урадзе—без усялякага ўплыву на палітыку!).

У адказ на гэта Брыян заявіў, што гэтая адмова аканчальна разьвязывае рукі „радыкалам" (папросту—буржуазіі), якія першым чынам правядуць праз пакорны ім парлямант новы выбарны закон, а пасьля, зрабіўшы новыя выбары, будуць поўнымі гаспадарамі ў краі, як і ў новым парляманьце... Але, каб ня страшыць паслоў, якія ўсюды наагул ня любяць новых выбараў, Брыян кажа, што правядзе рэформу выбарнага закону — дзеля чарговых выбараў.

### У справе вэнгерскіх фальшываманэтчыкаў.

Цікавы абарот прыняло сьледзтва ў справе фальшываманэтчыкаў, у якую занадта энэргічна ўмяшалася, як ведама, француская паліцыя.

У сваей доўга чаканай прамове ў Сойме, вэнгерскі прэм'ер Бэтлен заявіў, што вэнгерскі ўрад гатоў працаваць разам з францускай паліцыяй, але толькі ў тых межах, якія не парушаюць вэнгерскай самастойнай дзяржаўнасьці... Дзеяльнасьць францускіх паліцыянтаў павінна падпарадкавацца выключна вэнгерскаму пракурору. Агенты францускага банку заінтэрэсаваны толькі ў тым, каб выкрыць, сколькі сфальшавана банкнотаў і—якімі тэхнічнымі спосабамі гэта зроблена. Да іншых справаў і пытаньняў сьледзтва вэнгерскі ўрад францускіх агентаў не дапусьціць, бо на

гэта няма законаў, ані абавязку па міжнародным умовам...

Апазыцыйная лявіца ў вэнгерскім Сойме праз увесь час гэтае заявы прэм'ера рабіла нячуваны гвалт. Яе дамаганьні зараз-жа адчыніць дыскусію над заявай прэм'ера былі адкінуты ўрадавай большасьцю. Паседжаньне зачынена з вялікім скандалам.

Высунутае апазыцыяй дамаганьне—стварэньня соймавай камісіі дзеля разгляду справы фальшаваньня заграні́чных валютаў прынята ўрадавай большасьцю. Камісія будзе складацца з 30 паслоў.

# ХРОНІКА.

**Лекцыя.** У нядзелю, 24 студзеня, у 4 гадз. папал. Бел. Студэнцкі Саюз ладзіць публічную лекцыю ў салі Белар. Гімназіі (Вострабрамская 9). Чытаць будзе грам. Ант. Луцкевіч на тэму: „Эвалюцыя беларускае адраджэнскае ідэалёгіі і адбіцьцё яе ў літэратуры“.

Уваход вольны і бясплатны.

**Яшчэ адно ашуканства!** Пасол кс. А. Станкевіч, „гутарку“ з якім абшарніцкае „Słowo“ надрукавала ў нумары з 23 сьнежня м. г. побач з сфабрыкаванай супрацоўнікам газэты нябылай „гутаркай“ з гр. Луцкевічам, апублікаваў пісьмо, у якім заяўляе, што і ён ніякае гутаркі з ніякім супрацоўнікам „Słowa“ ня вёў....

Вось дык „фабрканты“! Ня горш за вэнгерскіх „калегаў“—манархістаў!

**Прызнаньне банкруцтва.** Дэфэнзыўная работа „доктара“ Павлюкевіча і ягочае „Часовае Рады, як відаць, аканчальна разваліваецца ў выніку таго, што ўлада „зрэдукавала“ напалову выдаваны Павлюкевічу „казённы паёк“. І зусім натуральна: раз няма чым дзяліцца, дык хто-ж пойдзе да Павлюкевіча? Паказвае гэта такжа і факт, што ўсё „адкладаны“ зьезд, на які Павлюкевіч „ўзяў падрад“ ад... пана Рачкевіча, ніяк не ўдаецца: ідэйныя беларусы на яго, ведама, не паедуць, а дэфэнзыўныя элемэнты просяць наперад грошы, без якіх з мейсца ня скрануцца! Вось і прышлося зусім вырачыся зьезду: прынамся прыхільная да Павлюкевіча польская газэта „Kur. Wil.“ падае вестку, што гэны самы зьезд „адложаны на неазначаны час“....

Ці не датуль, пакуль не ўзбагаціцца польскі скарб і не павялічыць асыгновак для „казённых беларусаў“?!

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва дзякуе за прысланыя для Музэю ім. Ів. Луцкевіча рэчы: 1) Мікалаю Кабяку з. в. Басянкі III Язьненскае гм., Дзісьненскага пав. — за 5 манэт, 2) вучыц. Астапчыку—за 1 мед. манэту, 3) вучню Віл. Белар. Гімназіі—за 1 манэту.

**„Чайкінская справа“.** 4. II. выязная сэсія віленскага акр. суда ў Вялейцы будзе разглядаць справу 11 сялян з Гарадоцкай гміны Вялейск. павету—Гелаш Алены, Радыны Вінцэся, Уланчынка, Лянкевіча, Плевакі Якуба, Лужынскага Кастуся, Бабровіча Васіля, Кабана Міхала абвінавачаных з арт. 108 і інш. Заарыштаваныя ўжо сядзяць каля 6 месяцаў у Вялейскай турме. Справа гэтая набыла ў Вялейскім павеце розгласу ў свой час пад назовам „Чайкінскай справы“ дзеля таго, што арышты адбыліся з прычыны даносу абшарніка Чайкіна, быццам сяляне хацелі заняць яго двор у часе польска-бальшавіцкай вайны.

**Працэс 72.** 11 лютага адбудзецца ў Віленскім Апэляцыйным Судзе разгляд справы 72 беларусаў, якіх Горадзенскі Суд у свой час засудзіў на розныя срокі турмы.

Абаронцам выступае адв. Родзевіч.

**Працэс 94 палітычных.** 1 лютага распачнецца ў Віленскім Акружным Судзе справа 94 палітычных вязьняў, якія ўжо даўно сядзяць у Лукішскай турме. Абвінавачваюць іх у камунізьме. На суд выклікана каля 200 сьведкаў. Суд можа працягнуцца каля месяца. Абаронцаў—адвакатаў мае выступіць да 15 асобаў, паміж імі адв. Дурач з Варшавы, адв. Родзевіч, Міцкевіч і інш. з Вільні.

**„Эканомія“ самаўрацаў — на здароў'і насяленьня.** Так-званыя „самаўрады“ (паноў старостаў!) на „Крэсах“ прымушаны значна зьменшыць свае бюджэты,—бо з сялян няма чаго браць, а паны, ведама-ж, плаціць ня хочуць. Дык — дзеля эканоміі—перад усім зьмяншаюцца выдаткі на лекарскую дапамогу насяленьню... І вось — зачыняюцца бальніцы і амбуляторыі па ўсім краю, якія абслугоўвалі вясковае насяленьне. Бальніцы на 30 ложкаў „рэдукуюцца“ да 6 ложкаў, як у Гадуцішках, Белым Двары, Лужках, Шумску; у Сьвянцянскім павеце зачынены 4 амбуляторыі.

Рэдукуюцца таксама і прытулкі для дзяцей і старых, як напрыклад—у Дзісьне.

Усюды на сьвеце жыцьцё і культура расьце, разьвіваецца, народ багацее. А ў нас—пад Польшчай—дык толькі бяда, развал, заняпад... І заўсёды і ў-ва ўсім—адна прычына: хай у сябе, у краі, народ гіне з голаду дый з хваробы,— толькі каб Польскае „Мацарства“ мела пышных „амбасадораў“ у Парыжу дый каштоўных паслоў у Японіі, Сіяме, Пэру ці Гонолюлю... — Такія ўжо „моцарствовыя“, хай і ня моцныя, мазгі ў міністраў польскай буржуазіі...

**Чым займаецца „Польскае Краязнаўчае Таварыства“ ў Вільні.** Характэрным дадаткам, дарысоўваючым „Краёвую“ працу Польскага Унівэрсытэту ў Вільні, зьяўляецца створаная пераважна з прафэсарскіх сілаў мяйсцовая філія „Польскага Краязнаўчага Таварыства“...—Напрыклад—бліжэйшае чарговае паседжаньне Т-ва ахвяравана... 100-летнім угодкам ведамага дзеяча-палянізатара Сташыца...—Зусім так, як Бялецкія, Кавалюкі дый Саланевічы з царскіх часоў, толькі на польскі капыл...

Ня могуць вызваліцца ад мінуўшчыны, дык і—трацяць будучыну!

**Рэдукцыя ў Віленскім Унівэрсытэце.** Як ведама, Віленскі Унівэрсытэт меў на мэце перад усім „ўваскрашэньне польскіх традыцяў“ у краі, ці папросту—палянізацыю апошняга. Дзеля таго вышэйшая школа ў Заходняй Беларусі зусім ня стала выразам і праявай духовага жыцьця краю і нічога не зрабіла ані для вывучэньня ані для падняцьця яго культуры. Найбольш забойчым прысудам гэтай чыста польскай палітычнай пляцоўцы зьяўляецца тое, што ў Віленскім Унівэрсытэце ня было і няма ніводнай катэдры, аддадай вывучэньню і выкладаньню моваў і літэратураў галоўных народаў краю — беларусаў і літвіноў... Як недарэчна, каб не сказаць рабункова—выкідаліся грошы на гэтую палітычную пляцоўку польскага нацыяналізму і клерыкалізму ў краі, відаць хаця-б і з таго, што ў Віл. Унів. істнавалі для некалькіх аматараў цэлыя каштоўныя факультэты (аддзелы)—каталіцкі-багаслоўскі дый „штук пекных“ (мастацтваў, толькі-ж выключна польскіх!), а дагэтуль не адчынены запраўды патрэбны краю—агранамічны дый лясны. Аб гэтых апошніх, якія-б вучылі жыхараў краю падыймаць гаспадарчыя падставы ўсей культуры, карыстаючыся найбольш эканомна з галоўных багацьцяў краю, толькі гаворыцца на розных зьездах. Ня гэтым заняты паны—„ўваскрасіцелі“ Унівэрсытэту, якія глядзяць не ўпярод, а назад...

І вось цяпер, як і ў-ва ўсіх іншых галінах паднятай з магілы польскай мінуўшчыны, заняпад няўхільна дайшоў і да Віленскага Унівэрсытэту: разваліваецца ад агульнага крызісу ў Польшчы і гэтая яе агітацыйна палітычная пляцоўка на „Крэсах“.

Як пішуць мяйсцовыя газэты, міністэрства прыслала рэктару У-ту загад, каб зьменшыць аж на III асоб агульны склад пэрсаналю Унівэрсытэту... Сэнат Унівэрсытэту мае пратэставаць проці гэтага, але-ж гэта—безнадзейна.

**Напад у Будславлі.** Няменш характэрны, як япошні напад шофэраў пад Вільняй, быў зроблены толькі-што напад у Будславлі. — Уночы на 18 студня на кватэру камандзіра мясцовага аддзелу пагранічнікаў ротмістра Баліньскага напалі некалькі толькі-што звольненых за службы пагранічнікаў, зьбілі яго дзяньшчыка і зрабавалі ўсё памешканьне...

Цікава, што сам п. Обст лічыць спраўцамі гэтага нападу жаўнераў, што — як ён дасьціпна кажа—зьяўляецца „тым больш падобным да праўды, што ў Будславлі стаіць вялікая лічба войска і густа расстаўлены алярмовыя пастарункі“... Што гэта—падобна да праўды, аб гэтым мы пісалі заўсёды, бо аб гэтым толькі-ж і кажуць у сваіх інтэрпэляцыях нашы паслы... Новае ў гэтым толькі тое, што, замест хат згалелага беларускага насяленьня, пачалі ўжо рабаваць багатыя кватэры паноў афіцэраў... Вось, як пачала выглядаць узапраўднасьці тая „галоўная апора і падстава польскай улады на „Крэсах“, якую так выхваляў, як найбольш пэўную, п. Прэзыдэнт у сваей гістарычнай прамове ў Вільні.,.

# З жыцьця Горадні.

× **Палітычны працэс.** 28 сьнежня 1925 г. Горадзенскі Акружны суд разглядаў справу жых. вёскі Канюкі, Індурскай гм. Горадзенскага пав., Вольгі і Антаніны Шыпіцы. Абвінавачывалі іх з арт. 129 К. К.—у тым, што 25 сакавіка 1925 г. ў вёсцы ў гародзе паставілі яны чучала з чырвонай хусткаю на галаве і напісалі ад рукі адозву, што ня трэба плаціць падаткаў. Потым, што Вольга Шыпіца напісала на паперы выдзержкі: „Я прыехала з Расеі і арганізую камунальную партыю“ (але не камуністычную!), а таксама „таварышы, не плаціце ні граша польскім абдартусам“.

Бараніў абаронца Левэнгэрдэр.

Сьведкаў абвінавачаньня 6 чалавек аднасяльчан, якія заявілі, што чучала было зроблена Вольгаю Шыпіцаю, і сьведка Вольга Сыч заявіла, што Шыпіцы гаварылі, што адозву на паперы напісала Вольга Шыпіца, але-ж сама сьведка ня бачыла і ня чытала, бо няграматная, а што яны ей гаварылі, яна не разабрала, бо не разумее.

Характэрна тое, што амаль ня ўсе сьведкі самы прыймалі ўчасьце, калі было пастаўлена чучала, і сьмяяліся, як з забаўкі перад сьвятам 25 сакавіка (Благавешчаньне). Сьведка Вольга Сыч была таксама арыштавана, але-ж, дзякуючы таму, што яна нялетняя і неразьвітая, справа проці яе спынена (ці ня дзеля таго, каб была сьведкаю? Бо-ж непоўналетнасьць яе тут не бярэцца пад увагу!).

Падпракуратар падтрымоўваў абвінавачаньне і дамагаўся пакараньня паводле арт. 129 К. К.

Адвакат Левэнгэрдэр даказваў беспадстаўнасьць абвінавачаньня і што Антаніна Шыпіца зусім нявінная, а тое, што Вольга Шыпіца напісала, як малалетняя, якая мае 14 гадоў, — гэта не зьяўляецца падбурэньнем проці дзяржавы.

Суд вынес прыгавар, засуджваючы Вольгу Шыпіцу на 1 год крэпасьці, а Антаніну Шыпіцу на $1^1/_2$ года крэпасьці, залічыў ім па 7 месяцаў што прасядзелі ў вастрозе. Засуджаныя могуць быць звольнены з вастрога пад залог ад кожнай па 500 злотых (ну, скуль яны возьмуць?!) да Апэляцыйнага суда.

Пасьля прыгавору раздаўся крык і плач маткі і сястры, таксама голас: „няпраўда“ з боку абвінавачаных, так што ўся саля была ўзрушана.

Абвінавачаныя гаварылі пабеларуску, йначай не разумелі.

× **Уцёк ад суда.** 28/XII 1925 г. Горадзенскі Акружны Суд разглядаў справу Лямпэрта і Ошаровіча з арт. 102 К. К.

На суд не зьявіўся абвінавач. Ошаровіч, які, звольнены пад залог 100 зл.

Суд пастанавіў справу адлажыць, залог Ошаровіча сканфіскаваць на карысьць дзяржавы а Ошаровіча арыштаваць.

**Нёман.**

## Куток наймалодшых.

### Гэй, прастор!

Дальная дарога,
Зьзяньня агняпас...
Гэй! лясы, разлогі, —
Я вітаю вас!
Клумак падарожны, —
Песьні і разгон!
Проч, ланцуг вастрожны
І няволі сон!
Гэй, ты, даль бязьмежжа!
Гэй прастор, абшар...
Як ваш выгляд сьвежы, —
Як-бы песьні чар,
Або зык між цішы,
Што трывожыць грудзь,
Што душу калыша,
Не дае заснуць...
Дальная дарога,
Зьзяньня агняпас! —
Добры дзень разлогі! —
Як люблю я вас!?...

1926. **Малады.**

# Як адчыняць кнігарні і ладзіць усялякую іншую прадажу літэратуры.

Пісалі мы ў нашай газэце аб патрэбе беларускае бібліятэкі на вёсцы; пісалі, што пры сучасным перасьледаваньні беларускага школьніцтва—беларусаў можа ратаваць ад духовага заняпаду толькі свая беларуская кніжка і бібліятэка на вёсцы.

З гэтаю мэтаю і быў арганізованы гэт.-зв. „тыдзень таннай прадажы беларускае кніжкі“, каб даць сялянам большую магчымасьць набываць беларускія кніжкі і арганізаваць у сваіх вёсках бібліятэкі.

І, ясна, магчымае было зроблена. Але з тае прычыны, што, лічыць толькі адна беларуская кнігарня ў Вільні абслугоўвае ўсю Заходнюю Беларусь, гэтае імкненьне сялян да роднае кніжкі было здаволена далёка ня поўна. Другая рэч — калі б ня толькі кожнае павятовае места мела беларускую кнігарню, але калі б навет кожнае меншае мястэчка мела яе — тады селянін, будучы на торзе, часта, замест каб выпіць паўбутэльку, зайшоў бы ў сваю беларускую кнігарню і купіў-бы родную кніжку для сваіх дзетак, дый для сябе, калі толькі ўмее чытаць.

Тады і родная кніжка пашыралася-б, прыносячы аграмадныя духовыя і матэрыяльныя карысьці сваім чытачом, дый беларускае выдавецтва пайшло-б шпарчэйшым тэмпам, маючы збыт сваіх кніжак.

А ўсё гэта залежыць толькі ад нас самых,—толькі сваімі высілкамі мусім будаваць і збудуем свой Дом.

Вось-жа, каб прыйсьці з парадаю, як адчыніць кнігарню, мы і падаем тут зьмест „dekretu“, як адчыняць кнігарню.

Прыймаючы пад увагу, што адчыніць кнігарню ня трудна, і сама кнігарня дасьць спосаб пражыцьця,—хай кожнае мястэчка адчыніць у сябе беларускую кнігарню!

Вось гэны

## ДЭКРЭТ

**з дня 7./II. 1919 г. ў справе часовых законаў аб друкарнях і кнігарнях.**

На абшарах б. расейскага забору ўтрымоўваньне друкарняў і кнігарняў падлягае часовым законам у ніжэй паданых параграфах:

§ 1. Асоба, якая маніцца адчыніць друкарню, ці кнігарню з мэтаю таргаваць, пазычаць ці раздаваць кнігі і літэратуру, дазволеныя дзеля публічнае прадажы,—павінна паведаміць аб гэтым адпаведную адміністрацыйную ўладу (напр., староства — *Рэд.*), падаючы імя і прозьвішча ўласьніка, месца, дзе мае быць друкарня, ці кнігарня, а таксама, хто мае быць загадчыкам гэтае друкарні ці кнігарні.

2) Кожная друкарня і кожная кнігарня мусіць мець загадчыка. Загадчыкам можа быць уласьнік.

Загадчыкам можа быць асоба, якая мае 21 год, ня ўтраціла правоў згодна з §§ 25 — 30 К. К. і стала жыве ў Польшчы.

Загадчыкам ня можа быць асоба, якая адбывае арышт на падставе прыгавору суда, або знаходзіцца пад сьледчым арыштам;—гэта мае моц праз увесь час трыманьня арышту.

§ 3. Загадчык павінен падаць паказанай у § 1 уладзе паведамленьне, што бярэ на сябе абавязак заведываньня друкарняй ці кнікарняй.

§ 4. Калі ў працягу двох тыдняў ад дня выпаўненьня варункаў, прадугледжаных у §§ 1 і 3 гэтага дэкрэту, ня будзе адмоўнага адказу з боку мясцовае адміністрацыйнае ўлады, — дык можна прыступіць да адчыненьня паданай у паведамленьні друкарні ці кнігарні.

У выпадку адмовы прычыны адмовы мусяць быць паказаны на пісьме.

Скарга на адмову мясцовае дзяржаўнае адміністрацыйнае ўлады можа быць падана да Мін. Унутр. Спраў у працягу двох тыдняў ад атрыманьня адказу.

§ 5. Калі ў працягу году ад дня злажэньня паведамленьня мясцовай дзярж. адмін. уладзе кнігарня ці друкарня не адчыніцца, дык дзеля пазьнейшага адчыненьня вымагаецца паўторная падача паведамленьня (§§ 1 і 3).

§ 6. У выпадку перамены загадчыка ці ўласьніка, або адрэсу друкарні ці кнігарні — трэба ў працягу тыдня падаць дэклярацыю, як сказана ў §§ 1, 3 і 4 дэкрэту.

Гэтак сама і ў такі самы час трэба падаць дэклярацыю аб адыходзе загадчыка, калі загадчык выяжджае за межы Польшчы, траціць асабістую вольнасьць ці будзе пазбаўлены ці абмежаваны ў правох.

§ 8. Кнігарні падлягаюць кантролі дзяржаўных урадоўцаў.

§ 9. Прадажа літэратуры паза кнігарнямі, гэта значыць: на вуліцах, плошчах, разносячы ці развозячы,—дазволена кожнай асобе, не пазбаўленай ці абмежаванай у правох, калі атрымае пасьведчаньне ад адпаведнай дзяржаўнай адміністрацыйнай улады, упаважняючае гэтую асобу на гэта.

Пастанова гэтая не адносіцца да прадажы на вуліцах і плошчах газэт і пэрыядычных журналаў.

### Зьмена кары з § 296 К. К.

Віноўныя ў адчыненьні кнігарні ці чытальні, або ў таргоўлі літэратурай без выпаўненьня варункаў, вымаганых уставам або распараджэньнем, падлягаюць штрафу 200 польскіх злотых.

**Да § 300.** Віноўны ў пушчэньні ў прадажу выдавецтва, аб якім яму ведама, што яно спынена законнаю ўладаю, падлягае кары вастрогу на час да 6-цёх месяцаў.

**§ 12.** Усялякага роду друкарні і кнігарні, якія да абвяшчэньня гэтага дэкрэту законна функцыянавалі, будуць уважацца за законна існуючыя, калі іх уласьнікі ці паўнамоцнікі ў працягу двох тыдняў ад даты атрыманьня абязваючай моцы гэтых законаў, выпаўняць варункі § 1 і 3 гэтага дэкрэту.

Пры гэтым паведамляем, што падаваць трэба ня просьбу (podanie), а толькі дэклярацыю, якая **не аплачываецца штэмплёвымі маркамі.** Дэклярацыя пішацца паводле ніжэй паданага прыкладу.—Напрыклад, нейкі Філярэт Бубен з Маладэчны хоча адчыніць у сябе кнігарню, дык ён у свае старостава піша гэтак:

**У Староства Маладэчанскага павету.**

Філярэта Бубена, пражыв. ў м. Маладэчна пры Замкавай в. № 51.

**Дэклярацыя.**

Гэтым паведамляю Староства, што з 1./II. 1926 г. манюся адчыніць кнігарню ў Маладэчне пры вул. Пілсудскага № . . .

Усю адказнасьць за заведваньне і кіраваньне кнігарняю прыймаю на сябе, як уласьнік і загадчык кнігарні.

Паведамляю, што маю 28 гадоў; стала жыву ў Маладэчне пры Замковай вул. № 51, ня ўтраціў правоў паводле §§ 25—30 Карнага Кадэксу і знаемы са зьместам Дэкрэту з дня 7./II. 1919 г., датычачага закладаньня друкарняў і кнігарняў. **Філ. Бубен.**

Маладэчна, дня 1./II. 1926 г.

Як бачым, § 9 гэтага дэкрэту пазваляе навет **развазіць кніжкі** па вуліцах і плошчах, гэта значыць: можна прадаваць іх на рынках і таргах. Ведама-ж, калі-б гэтым, хто заняўся, які ход мела-б нашая кніжка! **А газэты і журналы** дык **без дазволу можна прадаваць.**

Тыя безработныя, што ня маюць за што зачапіць рук, хай возьмуцца за гэтую працу! Хай зварочваюцца да нас—дамо падтрыманьне!

Дык распаўсюджвайце сваю беларускую кніжку і літэратуру.

## Карэспандэнцыі.

### Чаму навучацца?

(З Наваградчыны).

На беларускай зямельцы сустракаецца дужа многа розных польскіх установаў, мэтаю якіх зьяўляецца апалячваньне беларускага народу: тут ёсьць і асадніцкія культурныя гаспадаркі, якія атрымліваюць добрыя беспаваротныя пазыкі; тут і „Kółko opieki nad Kresami“, якія сочаць за дабрадзейнасьцяй грамадзян; тут і сябры „Тымчасовае Беларускае Рады“, якія за юдашавы сярэбраньнікі прадаюць беларускае грамадзянства, але найбольш беларускіх грамадзян дапякаюць польскімі школамі. Дзе ні пачуў, дык адна скарга: „Няма ратунку ад польскае школы“. І запраўды, няма ратунку. Як да выданьня закону аб беларускім школьніцтве, так і пасьля, беларускія дзеткі, як заганяліся прымусам у польскія школы, так і заганяюцца. Ня хочаш пускаць дзіцяці ў школу, дык плаці штраф, або сядзі ў вастрозе. А з польскага настаўніцтва ёсьць гэткія спэцыялісты, што па зубох пазнаюць колькі гадоў дзіцяці. Яму кажуць, што сёмы год, або чатырнаццаты, а ён піша восім, адзінаццаць. Адным словам, стараюцца, каб выйшаў, калі не паляк, дык хоць паўпаляк. Гэткія прыклады можна праверыць у вёсцы Вуняхава, Жухавіцкае гміны, дзе бабы ажно плачуць, што дзеці ня могуць нат добра гаварыць і хадзіць, а іх ужо гоняць у школу. І добра, бо з гэткіх скарэй можна зрабіць паляка! Але ўжо ў другіх мясцох, дык пападаюцца проста касцы, якія нат у грудкі бяруцца з вучыцялямі (вёска Агароднікі, Гарадзічанскае гміны). Ну таго дык ужо трудна зрабіць паляком! Што-ж беларускія дзеткі навучыліся і навучацца ў гэткіх школах, дзе настаўнік ня цяміць мовы вучня, а вучань настаўніка? На гэта няхай дадуць адказ інспэктары.

Беларускаму грамадзянству ведама толькі тое, што іх дзеткі за чатыры гады ня могуць навучыцца добра чытаць і пісаць, а арытмэтыку дык вучаць да толькі да ста, але-ж за тое добра ўмеюць плясьці з саломы міскі, ды выробляць розныя непатрэбныя штучкі. Калі паны ня вераць, дык няхай праверацць.

**Ю. Хмурны.**

### Добрыя праявы.

(Ляхавічы).

Каталіцкае сьвята Новы Год... Вечар... Заходжу да аднаго знаёмага ў вёсцы N. У хаце застаю многа хлапцоў і дзяўчат,—асабліва хлапцоў.

Моладзь цесным натоўпам, хто стоячы, хто седзячы, слухала якуюсь дэклямацыю ці чытаньне. Услухоўваюся і чую добра знаёмы верш Якуба Коласа, дэклямаваны зычным, мілагучным галаском. Ад увайшоўшага ў гэты час у хату прыяцеля даведаўся, што гэтым дэкляматарам ёсьць яго малодшы брат вучань Віленскае беларускае гімназіі, які прыехаў на калядныя сьвяты дамоў.

Скончыўшы верш,наш дэкляматар зварочваецца да прысутных:

— Ці зразумелі добра і ці ведаецца, хто гэты верш напісаў!

— Якжа-ж не зразумець, калі гэта панашаму напісана! Але вось, хто гэта так хараша напісаў, дык ня ведаем!—адказваюць колькі галасоў разам.

— Мо' Янка Купала?—адзываецца нясьмела адзін высокі хлапец.

— Не, гэта ня Янка Купала, але Якуб Колас,—такі самы талентны мастак, такі самы харошы пясьняр, як і той і, калі хочаце ведаць, ён нават наш зямляк, бо так сама паходзіць з Слуцкага павету, як і мы калісь,—выясьняець вучань.

Пачынаецца далей чытаньне „Адплата Каханьня“. Ах, з якой увагай, з якім захопленьнем, радасьцяй, з якой мілай усьмешкай удзячнасьці слухала моладзь гэтае повесьці. З якім захопленьнем і любоўю хваліла добрую, мілую, харошую „паненку Зосю ў крамнай сукенцы“, а як абуралася і амаль не кляла нягоднага, злога „пана Лаўчынскага“!

Па скончанай „лекцыі“ моладзь горача дзякавала гімназісту і прасіла яшчэ калі зрабіць такую вечарыну. Ён, абяцаўшы, заахвочвае прысутных самым чытаць кніжкі, гаворачы, што ў зімовыя вечары будуць мець надта многа вольнага часу, калі раз на заўсёды пакінуць хадзіць да кудзельніц па вечарох, забудуць карты і музыкі; падае пры гэтым адрас віленскае беларускае кнігарні і выясьняе, што апошняя да 5 студзеня прадае кніжкі за паўцаны. Сярод агульнага здаваленьня і сьмеху разыходзілася моладзь дамоў.

Варочаючыся ад прыяцеля дамоў, я радаваўся, душа была поўна лятуценьняў, удзячнасьці.

Слава Вам, гімназісты, запраўдныя прышлыя інтэлігенты, сыны сярмяжнага, многапакутнага люду! Чэсьць Вам, маладыя піанэры нашага адраджэнскага руху!

Хай-жа кажды з Вас зразумее важнасьць свайго прызваньня, вартасьць тае карысьці, якую павінен прынясьці на Алтар Адраджэньня праз усьведамленьне старэйшых і асабліва сваіх малодшых братоў, будучы на Каляды, Вялікдзень, ці ўлетку дома, у сваей вёсцы.

**Ю. Салавейка.**

## Ад адміністрацыі „Беларускае Нівы“.

(Аб новым распараджэньні аб падпісцы на газэту).

Паведамляем усіх падпішчыкаў і чытачоў „Беларускае Нівы“, што ад 1 студзеня 1926 г. ўвайшло ў сілу новае распараджэньне аб прыйме падпіскі на газэты.

А імення: з 1 студзеня с. г. кожны падпішчык газэты можа выпісаць яе на сваей пошце і заплаціць там грошы. Паштовыя ўрады прымаюць падпіску толькі **паміж 15 і 25 кожнага месяцу** на наступны месяц. Але таксама можна выпісваць газэту і прысылаць грошы на яе ў рэдакцыю газэты, як гэта было раней (przekazem pocztowym), што лічым як для рэдакцыі, так і для падпішчыкаў выгаднейшым.

Кожны падпішчык, жадаючы перамяніць свой адрас, можа гэта зрабіць на сваей-жа пошце, аднача сна паведамляючы аб гэтым рэдакцыю.

## З Радавае Беларусі.

### Беларусізацыя рабфаку.

„Сав. Бел.“ падае цікавыя весткі аб праводжаньні ў жыцьцё пастановы аб беларусізацыі так-званага „рабочага факультэту“ („рабфаку“) ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску.

Адным з балючых пытаньняў рабфаку зьяўляецца пытаньне беларусізацыі. У сёлетнім школьным годзе першы курс пераведзен выключна на беларускую мову (расейская мова, як прадмет).

Праўда, спачатку трохі справа ня ладзілася, дзеля таго, што многія са студэнтаў былі амаль незнаёмы з беларускаю моваю. З цягам часу справа беларусізацыі сярод рабфакаўцаў наладжваецца.

Адно, што перашкаджае хуткаму тэмпу беларусізацыі, гэта тое, што падручнікі на расейскай мове, а выкладаньне ідзе на беларускай мове. Тут рабфакаўцам самім прыходзіцца перакладаць тыя ці іншыя тэрміны з расейскай на бел. мову.

Што-ж тычыцца настаўнікаў, то яны, трэба сказаць, мала падрыхтаваны да беларусізацыі: на заключных і ўступных канфэрэнцыях большаю часткаю „сякуць“ парасейску.

Нават сам дэкан рабфаку грам. Слонім ніколі ні„ славечка, ні беднага“ не заікнецца пабеларуску.

### Льготы па сел.-гасп. падатку.

Да апошняга мамэнту па сел.-гасп. падатку ў БСРР атрымалі льготы: па зямляўпарадкаваньню — 19.257 гаспадарак на суму 263.335 р., па маламоцнасьці — 56.549 гас. на суму — 114.292 р., і 16.397 чырвонаармейскіх гаспадарак на суму—104.426 руб.

Іншыя льготы і скідкі складаюць 108.833 руб. (317 гаспадарак).

Усяго зволынена ад с.-г. падатку — 145.290 гаспадарак, г. зн. пятая частка агульнага ліку сялянскіх гаспадарак.

Уся праца па выдачы льгот і скідак па падатку ў гэтым годзе праводзіцца ў раённых выканаўчых камітэтах. На раённыя падатковыя камісіі ўскладзена і вырашэньне ўсіх скаргаў і хадайніцтваў плацельшчыкаў падаткаў.

### Агнястойкае будаўніцтва.

Народны камісарыят земляробства распрацаваў рад мерапрыёмстваў дзеля палепшаньня сялянскага будаўніцтва, якое стыхійна расьце ў зьвязку з плянавым правядзеньнем зямляўпарадкаваньня.

Згодна з плянам Наркамзему, Белсельбанк намеціў на 1926 год значныя крэдыты (да 400.000 р.) на агнястойкае будаўніцтва (выраб агнястойкіх матар'ялаў і заснаваньне палепшаных тыпаў будынкаў).

Дзеля разьвіцьця самадзейнасьці жыхарства адпушчана па мясцоваму бюджэту 2.700 р. на прэміраваньне сялянства за лепшыя ўзоры агнястойкіх будынкаў і правільна распляваныя пасёлкі.



Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.